Гродна
№3 (485),
4 лютага 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




Да Сусветнага дня хворага

# Дапамажыце мне вярнуцца дадому!



**Здаецца, звычайны дом, зялёны лужок, кветкі… і дзіцячая далонь. Усё было б так проста, калі б не было так складана. Гэтую карціну намалявала Даша Кавалеўская, якая ўжо на працягу 9-ці месяцаў знаходзіцца ў рэанімацыі Гродзенскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы. Маленькая рука нібы адбілася на нябачнай бальнічнай шыбе, што аддзяляе дзіця ад бацькоў. Але кожны з Вас можа дакрануцца да далоні дзяўчынкі і зрабіць так, каб яна хутчэй вярнулася дадому.**


● працяг на с. 3




Ad limina Apostolorum

# Сучасны Касцёл у Беларусі: адкрыта і шчыра

**Напярэдадні візіту ad limina Apostolorum біскупаў Беларусі ў Ватыкан, што прадугледжвае даклад іерархаў аб стане сваіх дыяцэзій, старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у інтэрв’ю для “Слова Жыцця” распавёў аб агульным становішчы лакальнага Касцёла, яго дасягненнях і слабых месцах.**


● працяг на с. 4


“Вобраз Касцёла як палявога шпіталя – гэта канкрэтная рэчаіснасць”. Папа Францішак




**V ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мк 1, 29–39**

Езус, выйшаўшы з сінагогі, прыйшоў з Якубам і Янам у дом Сымона і Андрэя. Цешча ж Сымона ляжала ў гарачцы, і адразу сказалі Езусу пра яе. Ён падышоў і, узяўшы за руку, падняў яе. І прайшла ў яе гарачка; і жанчына пачала служыць ім.

Калі ж настаў вечар, і калі зайшло сонца, прыносілі да Яго ўсіх нядужых і апантаных злымі духамі. А ўвесь горад сабраўся перад дзвярыма. Ён жа аздаравіў многіх, якія цярпелі на розныя хваробы, і выгнаў многіх злых духаў; і не дазваляў злым духам казаць, што яны ведалі Яго. А раніцай, устаўшы вельмі рана, выйшаў і пайшоў у пустыннае месца і там маліўся. Сымон і тыя, хто быў разам з ім, пайшлі за Ім. І, калі знайшлі Яго, сказалі Яму: "Усе шукаюць Цябе". Ён адказаў ім: "Пойдзем куды-небудзь у бліжэйшыя мястэчкі, каб і там прапаведаваць, бо Я дзеля гэтага прыйшоў".

І прапаведаваў Ён у сінагогах іхніх па ўсёй Галілеі, і выганяў злых духаў.

## ПРЫМЕМ УДЗЕЛ У СЛУЖЭННІ Ў КАСЦЁЛЕ!

Місія Езуса на зямлі заключалася ў абвяшчэнні блізкасці Божага Валадарства. Ён рабіў гэта, прапаведуючы Добрую Навіну, якая была і да сёння застаецца навукай і моцай. Словам Збаўцы спадарожнічалі знакі. Адным з іх было аздараўленне. Не аднойчы менавіта дзякуючы яму людзі адкрываліся на веру і наваўрталіся.

Хваробы і смерць з'яўляюцца часткай нашага жыцця. Прычына кожнай пакуты – грэх, за якім стаіць д'ябал. Тым, хто атрымаў верх над смерцю і злым, стаў Езус. Аздараўленні, якія Ён здзяйсняў і надалей здзяйсняе, з'яўляюцца доказам Яго перамогі. Бог прагне, каб мы былі шчаслівымі ўжо на зямлі і дасягнулі вечнага жыцця.

Просім Пана аб аздараўленні для нас і нашых блізкіх. Аднак не пакідайма сабе таго, што атрымалі ад Бога. Давайце будзем сведкамі Евангелля і дзейнасці Езуса ў нашым жыцці, а таксама – падобна цешчы Пятра пасля аздараўлення – прымем удзел у служэнні ў Касцёле.

**Аб чым папрасіў бы Езуса, калі б Ён завітаў у мой дом, як прыйшоў у дом Пятра?**

**Ці ўдзельнічаю я ў жыцці сваёй парафіяльнай супольнасці?**

**VI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мк 1, 40–45**

Прыйшоў да Езуса пракажоны і, упаўшы на калені, прасіў Яго: "Калі хочаш, можаш мяне ачысціць". Езус, злітаваўшыся над ім, працягнуў руку, дакрануўся да яго і сказаў яму: "Хачу, будзь ачышчаны". І адразу ж праказа сышла з яго, і ён стаў чысты.

Езус строга перасцярог яго і адразу адправіў, кажучы: "Глядзі, нікому нічога не кажы; але ідзі, пакажыся святару і дай ахвяру за ачышчэнне сваё, як загадаў Майсей, для сведчання ім".

Але ён, выйшаўшы, пачаў абвяшчаць і шмат расказваць пра падзею, так што Езус не мог ужо адкрыта ўвайсці ў горад, але быў здалёк, у пустэльных мясцінах. І прыходзілі да Яго адусюль.

## ВЕРА І АДВАГА

Толькі Езус Хрыстус заўсёды меў моц аздараўляць чалавека адразу, пры дапамозе некалькіх слоў. Аднак для гэтага неабходны былі 2 ўмовы: вера і адвага. Вера – таму што толькі Бог можа ацаліць чалавека. Адвага – каб нягледзячы на мноства перашкод і адмаўленне іншымі наблізіцца да Настаўніка. Пракажоны з сённяшняга Евангелля меў у сабе і адно, і другое! Ведаў, што Хрыстос для яго – адзіная і апошняя надзея, перад якой любая цяжкасць станавілася менш шакіруючай.

Своеасаблівай праказай сёння з'яўляецца грэх. Ён таксама заразны. Можа распаўсюджвацца хутка і пастаянна, на жаль. Таму кожны чалавек у духоўным сэнсе з'яўляецца пракажоным, паколькі здзяйсняе грахі. Пан Бог прагне вылечыць нас ад гэтай духоўнай хваробы. Але каб зрабіць гэта, мы павінны папрасіць, як пракажоны: "Пане, калі хочаш, можаш мяне ачысціць!".

**Ці з'яўляюся я чалавекам веры і адвагі?**

**Ці клапачуся аб сваім духоўным жыцці?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Людское цярпенне – таямніца

*Дзень літургічнага ўспаміну Найсвяцейшай Панны Марыі з Лурд (11 лютага) з'яўляецца асаблівай нагодай, каб задумацца над досведам пакут, якія выпадаюць на долю хворых людзей. У гэты час духоўна пераносімся ў грот Масаб'ель, каб ля ног Марыі, якой "Усемагутны ўчыніў вялікія рэчы", прасіць аб заступніцтве ў важных для нас інтэнцыях, асабліва за пакутуючых у хваробах асоб.*

Людское цярпенне заўсёды было таямніцай. У адзіноце прабірацца праз яго змрок страшна складана. Аднак хрысціянін павінен умець разглядзець на гарызонце адзін надзейны ўказальнік – Крыж Пана Езуса, зеніт чалавечых пакут, перанесеных самай нявіннай Асобай, Баранкам без заганы. Ён аб'явіўся нам як знак збаўлення і любові Бога да чалавека. Праз свае пакуты хворы яднаецца з мукай Настаўніка і Яго справай адкуплення свету. Гэты збаўчы сэнс пакут не можа быць рэалізаваны без яднання з Езусам.

Хрыстос ніколі не ўтойваў ад вучняў неабходнасць цярпення. Нястомна адзначаў, што дарога, якая вядзе ў Нябеснае Валадарства, "вузкая і стромкая" ў адрозненне ад "зручнай і шырокай", якая, аднак, "прыводзіць да асуджэння". Выразна гаварыў таксама пра тое, што калі хтосьці хоча ісці за Ім, павінен узяць крыж і несці яго кожны дзень. Патрабаваў "адрачыся ад самога сябе", без чаго немагчыма дасягнуць канчатковай мэты – святасці.

Важна памятаць пра тое, што Бог не стварыў цярпенні. Боль і хвароба паўсталі як вынік граху разам з падзеннем чалавека, калі той неразумна выкарыстаў ахвяраваную яму свабоду. Аднак Стварыцель пераманіў цярпенне ў адзін са шляхоў, што вядуць да збаўлення. Так хвароба стала формай сустрэчы чалавека з Богам. "Я ўкрыжаваўся разам з Хрыстом, і ўжо не я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос " (Гал 2, 19–20).

Святое Пісанне вучыць нас, што Усемагутны не застаецца абыякавым да пакут і, калі чалавек просіць Яго аб дапамозе стойка і з надзеяй, заўсёды адказвае. Бог ведае і разумее людское цярпенне, таму што сам стаў чалавекам і многае выцерпеў (параўн.: Гбр 2, 18).

**Дарагія Чытачы!**

Ніхто з людзей больш, чым Марыя, не спазнаў цярпенні на зямлі. Яна нарадзіла Збаўцу, стала першым Табернаклем, несучы Яго ўсім людзям. Яна пакутавала падчас вынясення Езусу смяротнага прысуду, падчас крыжовага шляху. Гэта Ёй у рукі аддалі змучанае цела Сына. Таму просім Найсвяцейшую Маці, каб дапамагала хворым асобам перажываць свае пакуты ў еднасці з Панам Езусам і падтрымлівала тых, хто імі апекуецца.

Няхай ніводзін хворы не адчувае адзіноту, пакінутасць, асабліва з боку сваіх блізкіх, а таксама медыцынскага персаналу!




# СВ. ДЖУЗЭПІНА БАХІТА: ЗАСТУПНІЦА ЗАЛЕЖНЫХ І ПАДУЛАДНЫХ

***Заўсёды зычлівая, адкрытая на дапамогу, поўная веры і міласэрнасці да іншых. Св. Джузэпіна Бахіта спазнала ў жыцці больш цярпення, чым сапраўднага шчасця. Але яе сведчанне рашуча паказвае, што менавіта Бог, а не чалавек, з'яўляецца Панам кожнай істоты.***



*У іканаграфіі св. Джузэпіна Бахіта прадстаўлена ў манаскім хабіце.*

### ДЗЯЦІНСТВА Ў НЯВОЛІ

Нарадзілася каля 1869 года ў Дарфуры ў Судане. Калі мела 7 гадоў, была выкрадзена з бацькоўскага дома арабскімі гандлярамі і прададзена ў рабства. Яе назвалі Бахітай, што па-арабску значыць "шчаслівая". Гэтае імя з часам аказалася прарочым.

У няволі дзяўчына правяла 10 гадоў. Некаторы час знаходзілася на службе ў маці і жонкі аднаго генерала. Там яе кожны дзень збівалі да крыві, ад чаго да канца жыцця на целе засталося 144 шрамы. Сын іншага гаспадара аднойчы так жудасна пабіў дзяўчыну, што ёй спатрэбіўся цэлы месяц, каб паправіцца. Афіцэр турэцкай арміі загадаў нажом выразаць на скуры рабыні балючыя татуіроўкі. На адкрытыя раны насыпалі змешаную з мукой соль, каб малюнак застаўся на больш доўгі час. Ва ўспамінах, напісаных праз многа гадоў, жанчына прызнала гэтую падзею самай страшнай.

Трагічная сітуацыя Бахіты змянілася, толькі калі ў 1882 годзе яна трапіла на службу да італьянскага консула Каліста Леньяні. "На гэты раз мне сапраўды пашчасціла, таму што новы гаспадар быў вельмі добрым чалавекам і палюбіў мяне, – напісала пазней у біяграфіі Джузэпіна. – Мяне не каралі, не білі. Адчуванне такога спакою і суцяшэння было чымсьці амаль нерэальным".

Калі яе спыталі, што б зрабіла, калі б сустрэла сваіх праследавацеляў, сказала: "Стала б на калені, каб пацалаваць іх рукі, таму што, калі б усё так не здарылася, я не была б сёння хрысціянкай і манахіняй".

Маючы да гэтага часу такіх жудасных "паноў", якія зневажалі і трэціравалі яе ці, у самым лепшым выпадку, лічылі карыснай рабыняй, Бахіта пазнаёмілася з "Панам" зусім іншым – усемагутным Айцом, любячым Збаўцам. Пачула пра існаванне сапраўднага Бога, Валадара над гаспадарамі, добрага і міласэрнага. Адкрыла для сябе, што Ён ведае яе, што стварыў і, больш таго, любіць яе.

Вырашыла даручыць сваё жыццё Богу і ўступіла ў ордэн сясцёр канасіянак. У снежні 1896 года ў Вероне (Італія) склала манаскія абяцанні. Праз 6 гадоў была пераведзена ў манаскі дом ў Скіа ў правінцыі Вічэнца, дзе засталася да канца жыцця.

Падчас 45-гадовага побыту ў кляштары Бахіта працавала галоўным чынам на прахадной, застаючыся ў цеснай сувязі з жыхарамі ваколіцы. Была таксама кухаркай, прачкай і швачкай. Лагоднасцю, спакойным голасам і пастаяннай усмешкай яна хутка заваявала сімпатыі людзей. Такой яе памяталі, называючы "nostra Madre Moretta" ("наша Маці Негрыцянка").

Пасля доўгага жыцця, поўнага як пакут, так і надзеі, 8 лютага 1947 года Джузэпіна Бахіта адышла да Пана. Папа Ян Павел II 17 мая 1992 года абвясціў яе благаслаўлёнай, а 1 кастрычніка 2000 года далучыў да ліку святых.

### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ДЖУЗЭПІНЫ БАХІТЫ?

Святая з'яўляецца для сучасных людзей узорам, як у складаныя моманты не страціць надзею, як прайсці праз жыццё, здзяйсняючы добрыя і міласэрныя ўчынкі. Чарнаскурая святая Каталіцкага Касцёла – гэта цудоўны прыклад слухання Божага голасу, шукання Яго і імкнення за Ім, нягледзячы на разнастайныя абставіны.

### ЦІКАВА!

Папа Ян Павел II назваў Бахіту "ўніверсальнай сястрой". Святога Айца Бенедыкта XVI яна натхніла на напісанне аднаго з пунктаў энцыклікі "Spe salvi", прысвечанай рэфлексіі над хрысціянскай надзеяй. Папа Францішак у 2015 годзе абвясціў літургічны ўспамін св. Джузэпіны Бахіты Міжнародным днём малітвы і рэфлексіі на тэму барацьбы з гандлем людзьмі.

### З ВУСНАЎ СВЯТОЙ

"Будзьце добрымі, любіце Пана, маліцеся за тых, хто Яго не ведае. Усведамляйце шчасце, якое заключаецца ў тым, што вы Яго ведаеце!".

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Джузэпіну Бахіту 8 лютага.

*Кс. Юрый Марціновіч*



# Дапамажыце мне вярнуцца дадому!

**Дырэктар хоспіса, якая штодня сутыкаецца з людскімі няшчасцямі, лічыць, што ў цывілізаваным хрысціянскім грамадстве павінна быць нормай: "здарылася бяда – людзі сабраліся, дапамаглі". Дзякуючы ахвярнасці нераўнадушных сэрцаў у свеце і адбываюцца маленькія цуды – сумеснымі намаганнямі палягчаюцца пакуты, ратуюцца жыцці.**

### СПЯРША ДУМАЛІ, "РАЗДЫХАЕЦЦА"

Бяда прыйшла ў дом Казіміра і Вікторыі Кавалеўскіх з Гродна неспадзявана. *"Як і належыць, у 9-месячным узросце мы з Дашай пайшлі на агляд да ўрачоў,* – успамінае мама 2-гадовай дзяўчынкі. – *Мяне непакоіла, што дачка моцна кашляла. Нас паклалі ў бальніцу з дыягназам «пнеўманія». Месяц – у бальніцы, нядзелю – дома. І так па крузе, ажно пакуль не паставілі канчатковы дыягназ – «спінальная аміятрафія Вердніга-Гофмана»".*

**Спінальная аміятрафія Вердніга-Гофмана лічыцца распаўсюджаным генетычным захворваннем, нават нягледзячы на тое, што сустракаецца вельмі рэдка (прыкладна 1 выпадак на 10 тысяч навароджаных). Дзеці з такім дыягназам маюць цяжкасці з дыханнем, смактаннем і глытаннем, не трымаюць галаву, не сядзяць самастойна. Хвароба наследуецца па аўтасомна-рэцэсіўнаму тыпу. Гэта значыць, што абодва з бацькоў з'яўляюцца носьбітамі паталагічнага гена, аднак у іх захворванне ніяк не праяўляецца. У такім выпадку верагоднасць нараджэння немаўляці з дадзеным парушэннем складае 25%. Але калі казаць увогуле пра носьбітаў, то кожны 50-ты чалавек мае гэты паталагічны ген.**

Дзяўчынку паклалі ў рэанімацыю і падключылі да апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх. *"Ён дапамагае нашай дачцэ дыхаць,* – гаворыць Вікторыя. – *Спярша думалі, пры дапамозе медыцынскага абсталявання Даша «раздыхаецца». Аднак цуд не здарыўся..."*.

Дзяўчынка так і жыве ў рэанімацыі з мая мінулага года – яна не можа быць адключана ад апарата. Бацькі літаральна разрываюцца паміж домам і бальніцай. Іх штодзённыя сустрэчы доўжацца 2 гадзіны: такі парадак. *"Гэта нібыта аддаць сваё дзіця кудысьці і прыходзіць да яго толькі на непрацяглы час. Прыходзіць з думкай, што хутка ізноў трэба будзе расстацца... Я вельмі хачу, каб Даша, як і раней, была з намі побач",* – шэпча мама дзяўчынкі і не стрымлівае горкіх слёз.

### ПРАГРЭС МАГЧЫМЫ!

Штотыдзень дзяўчынку наведвае псіхолаг, праводзіць з ёй у іграВой форме заняткі на вывучэнне колераў, форм. *"Мы лепім, малюем пальчыкамі, што вельмі падабаецца Дашы. Яна шмат усміхаецца, з задавальненнем і лёгкасцю ідзе на кантакт,* – распавядае Марыя Бразінская, псіхолаг Гродзенскага дзіцячага хоспіса. – *Дзяўчынка атрымлівае належную ўвагу ад медперсанала, але, вядома, гэта непараўнальна з тым, што можаш атрымаць дома. Там, у адрозненне ад рэанімацыі, не прывязаны да ложка. Побач бацькі... Дома дзіця жыве ў спакоі, пад апекай і клопатам мамы і таты, што мае аздараўленчую моц".*

Псіхолаг прыгадвае падобны выпадак, калі ў мінулым годзе гродзенцы збіралі сродкі на апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх для 3-гадовай Машы Кара. Па сёння спецыяліст прадаўжае наведваць дзяўчынку і праводзіць з ёй развіваючыя заняткі. *"Пасля пераезду дамоў Маша моцна змянілася. Дзяўчынка прыбавіла ў вазе, стала актыўнай, камунікабельнай,* – гаворыць псіхолаг. – *Калі яшчэ адносна нядаўна яна была плаксівая, нічога не хацела, то сёлета – шчаслівая, у прыгожай сукенцы ў акружэнні бацькоў расказвала перад навагоднняй елкай верш. Глядзіш на гэты прагрэс і адчуваеш, што дзесьці пад сэрцам нібы адлягло".*

Зараз бацькі падключаюць Машу да апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх прыкладна на 2 гадзіны ў дзень або на ноч, а могуць і ўвогуле не падключаць. Стан дзяўчынкі значна палепшыўся. *"Нездарма ж кажуць, што дома сцены лечаць",* – падкрэслівае псіхолаг.

Такая пазітыўная дынаміка верагодная і ў выпадку з Дашай. Для гэтага неабходна толькі ўстанавіць апарат дома...

### СУМЕСНЫМІ НАМАГАННЯМІ

Апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх сёння каштуе 15 тысяч еўра. Вядома, для простай маладой сям'і апаратара жывёлагадоўчых комплексаў і механізаваных ферм і маці ў водпуску па доглядзе за дзіцём такая грашовая сума непад'ёмная. Збор сродкаў адкрыў Гродзенскі дзіцячы хоспіс, пад апекай якога знаходзіцца Даша.

*"За 10 гадоў я не памятаю такога дзіцяці,* – адзначае Вольга Вялічка, дырэктар Гродзенскага дзіцячага хоспіса. – *Яна жыве ў пастаянным стрэсе! Пасля кожнага візіту бацькоў эмацыянальнасць дзяўчынкі скача. Гэта адбіваецца і на дыханні: падае сатурацыя* (насычэнне крыві вуглякіслым газам, – **заўв. аўт.**). *Гісторыя падобная да галоднага, якому паказалі каравай і адшчапілі толькі крышынку. Няправільна, каб дзіця так мучылася".*

*"Каб дапамагчы сям'і, нашы валанцёры раздаюць улёткі на вуліцах горада, змяшчаюць інфармацыю ў сацыяльных сетках,* – распавядае Вольга. – *Каля 2-ух тысяч даляраў сабралі вернікі ў гродзенскай катэдральнай парафіі св. Францішка Ксаверыя. На працягу 2-ух тыдняў у касцёле стаяла скрыня на прадпрыемствы і рэалізоўвалі іх за ахвяраванні для хворай дзяўчынкі. Значная грашовая сума – унёсак гродзенскіх мастакоў, якія накіравалі на закупку апарата сродкі, выручаныя ад мінулагадовай экспазіцыі выставы ў Сопаце".*

Сёння ў дапамогу Дашы імчыць цэлы цягнік дабрачыннасці! *"Плануецца інтэнсіўнае супрацоўніцтва з мясцовымі СМІ, тэлебачаннем,* – распавядае дырэктар хоспіса. – *Хочам паказаць ролік з заклікам аб дапамозе ў кінатэатрах горада перад паказамі фільмаў: зараз на стадыі ўзгаднення. Маем намер правесці аўкцыён карцін, якія былі створаны ў мінулым годзе вядомымі гродзенцамі ў рамках акцыі «З верай у жыццё і людзей»... Інакш кажучы, робім усё магчымае і*



*для ахвяраванняў. Праблема сям'і Кавалеўскіх таксама аб'яднала бацькоў у нашым клубе, які дзейнічае пры хоспісе. З выставай рукадзельных вырабаў, якія бацькі майстравалі разам са сваімі дзецьмі, мы выязджалі немагчымае, каб на пачатку сакавіка ўдалося купіць апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх і Даша змагла вярнуцца дадому. На дадзены момант маем 50% ад яго кошту".*

*Ангеліна Пакачайла*

**Вы таксама можаце наблізіць дзіцячую мару і дапамагчы Дашы!**

Для гэтага дастаткова зрабіць ахвяраванне, патэлефанаваўшы на вызначаны нумар ці адправіўшы СМС на кароткі нумар. Можна таксама пералічыць адвольную грашовую суму непасрэдна на рахунак Гродзенскага дзіцячага хоспіса.

*Падрабязная інфармацыя па нумары тэлефона рэдакцыі: (8 0152) 75-64-38.*

***Далейшы лёс дзяўчынкі шмат у чым залежыць ад нас! Не заставайцеся раўнадушнымі.***

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

**Папа Францішак**



*Езус пакінуў у дар Касцёлу сваю моц аздараўлення: "Тым, хто паверыць, будуць спадарожнічаць такія знакі: [...] На хворых будуць ускладаць рукі, і яны выздаравеюць" (Мк 16, 17–18). У Дзеях Апосталаў чытаем апісанне аздараўленняў, здзейсненых Пятром (параўн.: 3, 4–8) і Паўлам (параўн.: 14, 8–11). Адказ на дар Езуса – заданне Касцёла, які ведае, што павінен ахінаць хворых такім жа, як яго Пан, позіркам, поўным пяшчоты і спачування. Душпастырства службы аховы здароўя ёсць і назаўсёды застанецца неабходнай і важнай задачай, якую трэба рэалізаваць з пастаянна новым запалам, пачынаючы з парафіяльных супольнасцей ажно да найлепшых цэнтраў аховы здароўя. Не можам не ўзгадаць пра чуласць і настойлівасць, з якімі многія сем'і апекуюцца сваімі дзецьмі, бацькамі і сваякамі, хранічна хворымі ці з сур'ёзнай інваліднасцю. Апека, аказваемая ў сям'і, з'яўляецца незвычайным сведчаннем любові да чалавечай асобы і павінна акружацца адпаведным прызнаннем і падтрымлівацца адпаведнай палітыкай. Таму ўрачы і медсёстры, святары, кансэкраваныя асобы і валанцёры, члены сем'яў і ўсе, хто займаецца апекай над хворымі, удзельнічаюць у гэтай місіі Касцёла. Маем справу з супольнай адказнасцю, якая ўздымае вартасць штодзённай паслугі кожнага.*

*Фрагмент паслання Святога Айца на XXVI Сусветны дзень хворых*

**Кс. бп Аляксандр Кашкевіч**



*Касцёл рэалізуе заданне, якое Хрыстос даручыў Апосталам: "Ідзіце [...] і навучайце ўсе народы. [...] І вось Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку" (Мц 28, 19–20). У гэтай дзівоснай таямніцы прысутнічае і дзейнічае сам Езус Хрыстус. І, згодна з Яго абяцаннем, так будзе ажно да сканчэння вякоў.*

*Хрыстовы Касцёл можна параўнаць з вялікай сям'ёй, у якой кожны мае сваё месца і здзяйсняе даручанае яму заданне. У добрых сем'ях усе разумеюць і дапамагаюць адзін аднаму, падтрымліваюць, любяць, спачуваюць. Тады сям'я моцная, духоўна здаровая, з'яднаная сапраўднай любоўю. Падобным чынам адбываецца і ў Касцёле. Калі святары, кансэкраваныя асобы і свецкія вернікі не толькі верна рэалізуюць кожны сваё пакліканне, але і ўзаемна дапамагаюць адзін аднаму, падтрымліваюць малітвай, аказваюць зычлівасць, тады Касцёл Божы ўмацоўваецца і становіцца ўсё больш верагодным сведкам Хрыстовага Евангелля.*

*Фрагмент гаміліі да членаў малітоўнага руху "Маргарытка" Гродзенскай дыяцэзіі, 20.01.2018*



◆ *Згодна з артыкулам №3 motu proprio “Summorum Pontificum”, манаскі дом абацтва трапістаў у Марываллд (Германія), які ў наступным годзе адзначыў бы 110-годдзе сваёй дзейнасці, будзе зачынены. Вета пагадненню паставіла ватыканская Кангрэгацыя па справах інстытутаў кансэкраванага жыцця і таварыстваў апостальскага жыцця. Манахі трапяць у іншыя кляштары. Уся маёмасць, што належыць супольнасці, будзе перададзена дыяцэзіі ў Аквізгране. Абацтва трапістаў было адным з нешматлікіх у свеце, якое цэлебравала св. Імшу выключна ў духу традыцыі старога абраду Найсвяцейшай Ахвяры.*

◆ *Біскупы Іспаніі выразілі свой пратэст у сувязі з зацверджаным урадам Андалузіі законам аб роўнасці асоб ЛГБТ і іх сем'яў. Новае распараджэнне паграджае свабодзе думкі, сумлення, адукацыі і рэлігіі. Навязвае канкрэтнае ідэалагічнае бачанне чалавека, заклікае да ліквідацыі паняцця жанчыны і мужчыны, аддзялення тоеснасці ад цялеснасці. Біскупы заахвочваюць усіх – а асабліва хрысціян – прыняць актыўную пазіцыю адносна пагроз, якія стварае распаўсюджанне гендэрнай ідэалогіі.*

◆ *Святы Айцец Францішак удзяліў сакрамант шлюбу сцюарду і сцюардэсе на борце самалёта падчас палёту ў Ікіке (Чылі). Карлас Сюфардзі Элорыага і Паўла Падэста Руіс павінны былі ажаніцца ў касцёле, але землятрус знішчыў іх мясцовую святыню. Паколькі работнікі авіякампаніі паведамілі Папе, што маюць намер узяць касцёльны шлюб, ён адразу ж спытаў: “А чаму б вам не зрабіць гэта цяпер?”. І благаславіў іх сужэнскі саюз, дадаўшы: “Спадзяёмся, тое, што вы зрабілі, натхніць іншыя пары па ўсім свеце”.*

◆ *Хоспіс, разлічаны на 72 месцы, паўстане ў Варшаве (Польшча). Пра гэта паведаміў кусташ санктуарыя св. Айца Піо ў Варшаўска-Праскай дыяцэзіі кс. Анджэй Куфлікоўскі. Святар заўважыў, што сем'і нярэдка не могуць забяспечыць хворым пастаянны догляд. “Будаўніцтва такога месца ў спальным раёне – выхад, дзякуючы якому мы можам прыняць пакуты, хваробы і смерць, суправаджаючы бацькоў, дзядуль і бабуль у цяжкія для іх хвіліны”, – падкрэсліў кс. Анджэй.*

◆ *Арганізатары XXIII Алімпійскіх гульняў у Пхенчхан (Карэя) запрасілі каталіцкага святара на цырымонію адкрыцця, каб несці факел з Алімпійскім агнём. А. Вінчэнца Бардо OMI спачатку падумаў, што гэта памылка, таму што ён не карэец. Аднак пачуў у адказ: “Ідзя сёлетніх Гульняў – братэрства, таму прысутнасць святара вельмі ўзрадуе нас”. Місіянер-аблат апекуецца Цэнтрам дапамогі бедным у Сеуле. Славіцца пастырскай крэатыўнасцю. У Год міласэрнасці ён аб'ездзіў краіну аўтобусам, дзверы якога сталі Брамай Міласэрнасці.*

*gosc.pl; pch24.pl; credo.pro*

# Сучасны Касцёл у Беларусі: адкрыта і шчыра

● *працяг са с. 1*

***– Як вядома, адной з галоўных мэт візіту іерархаў у рамках візіту ad limina Apostolorum з'яўляецца справаздача адносна сітуацыі мясцовага Касцёла ў краіне. Чакаецца, што гэта будзе аб'ектыўны погляд на рэчаіснасць. Ваша Эксцэленцыя, як сёння можаце апісаць рэальнасць Касцёла ў Беларусі?***

– Касцёл у Беларусі цвёрда стаіць на сваіх нагах. Ён адрадзіўся пасля трываючых 3 пакаленні жудасных ганенняў і сёння з'яўляецца інтэгральнай часткай нашага грамадства, адыгрывае ў ім значную ролю. Усё часцей Касцёл уздымае свой голас адносна існуючых праблем, і да яго прыслухоўваюцца.

Шмат увагі Касцёл прысвячае пастырскай дзейнасці, бо гэта яго галоўнае заданне – весці людзей шляхам збаўлення. Асаблівую ўвагу ўдзяляе дабрачыннасці і спяшае з дапамогай да тых, хто знаходзіцца ў матэрыяльнай і духоўнай патрэбе.

Добрым сведчаннем сталасці беларускага Касцёла, яго ролі ў жыцці грамадства і значэнні ў Еўропе з'яўляецца той факт, што горад Мінск у мінулым годзе быў выбраны для правядзення пленарнага пасяджэння Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы. Гэта знак прызнання нашага Касцёла на еўрапейскай арэне і адначасова гонар для краіны. Варта таксама звярнуць увагу на пастаяннае ўмацаванне сувязей і кантактаў Касцёла ў Беларусі з Праваслаўнай Царквой.

Радуючыся поспехам, неабходна адзначыць, што ў нашым Касцёле існуе і нямала праблем. Адной з найбольш актуальных з'яўляецца недахоп святынь, асабліва ў вялікіх гарадах. Мікрараёны растуць як грыбы пасля дажджу, і там патрэбны новыя касцёлы, каб духоўна “карміць” вернікаў.

Вялікай праблемай застаецца маральнае становішча грамадства, у якім прапагандуецца ідэя адсутнасці абсалютнай праўды. Усё адносна, і таму маральныя прынцыпы нібы таксама могуць змяняцца, што супярэчыць Божаму закону. Сведчаннем духоўнага заняпаду з'яўляюцца праблемы ў сям'і, пра што гавораць усё большая колькасць разводаў, малая колькасць дзяцей у сем'ях і яшчэ, на жаль, даволі шырока распаўсюджаная практыка перарывання цяжарнасці, штучнае апладненне, недастатковы клопат бацькоў аб адпаведным выхаванні дзяцей і г.д. У той час, як маем вельмі шмат добрай і актыўнай моладзі, вялікую трывогу выклікае яе рэлігійная абыякавасць, што сёння праяўляецца ўсё часцей. У выхаванні маладых людзей зараз большую ролю адыгрываюць СМІ, а не традыцыйныя аўтарытэты.

Адсутнасць канкардата паміж Апостальскім Пасадам і Беларуссю “тармозіць” развіццё Касцёла і не дае магчымасці поўнаму ажыццяўленню яго місіі. Але нягледзячы на гэтыя і шматлікія іншыя праблемы мясцовы Касцёл дынамічна і ўпэўнена крочыць у будучыню, каб быць радасцю і надзеяй нашага грамадства.

***– Апошні падобны візіт біскупаў Беларусі ў Ватыкан меў месца ў 2009 годзе. Наколькі змянілася карціна мясцовага Касцёла за гэты час? Ці можам гаварыць пра нейкія заўважныя і значныя змены?***

– Касцёл у Беларусі 2018 года моцна адрозніваецца ад Касцёла 2009 года. За гэты час былі пабудаваны шматлікія святыні, хоць іх колькасць яшчэ далёка не дастатковая. Назіраем якаснае развіццё каталіцкіх СМІ і іх актыўнасць у медыяпрасторы нашай краіны. Гэта заўважна на прыкладзе партала Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Catholic.by, газет “Слова Жыцця” і “Каталіцкі веснік”. Заснавана беларуская рэдакцыя “Радыё Марыя”. Ажыццяўляецца прамыя тэлеперадачы набажэнстваў з розных касцёлаў. З'явіўся лічбавы варыянт Літургіі гадзін.

Дынамічна развіваецца выдавецкая дзейнасць. Былі падрыхтаваны і выдадзены многія літургічныя, тэалагічныя і іншыя рэлігійныя кнігі, а таксама падручнікі па катэхізацыі. Выданне Новага Запавету на беларускай мове ўвянчала святкаванне Юбілею 500-годдзя выдання Бібліі Францыска Скарыны.

Развіваецца сетка каталіцкіх навучальных устаноў, якія рыхтуюць свецкіх вернікаў для дапамогі ў парафіяльным душпастырстве. Да існуючых Катэхетычных курсаў пры Аддзеле каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі і Катэхетычнага каледжа ім. Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах далучыўся Мінскі катэхетычны каледж ім. св. Яна Хрысціцеля.



Асаблівую ўвагу Касцёл звяртае на вельмі патрэбнае і актуальнае для нашай краіны душпастырства моладзі. Яе голас усё мацней гучыць на Сусветных днях моладзі, розных міжнародных форумах, пілігрымках у беларускія і замежныя санктуарыі. Касцёл, свядомы ў адказнасці за духоўны стан сям'і як галоўнай клеткі ў арганізме грамадства, шмат здзейсніў у справе падрыхтоўкі спецыялістаў для сямейных кансультацый.

Паволі развіваецца спецыялізаванае пастырства ў шпіталях. З'явіліся таксама новыя магчымасці ў наведванні святарамі вязняў. Дабрачыннае таварыства “Карытас” стала адным з вядучых у нашай краіне, з якім супрацоўнічаюць дабрачынныя арганізацыі, створаныя пры іншых канфесіях, і дзяржаўныя структуры сацыяльнай апекі.

З-за моцнага ўплыву ідэй маральнага рэлятывізму і сітуацыйнай этыкі, а таксама з-за нязгоднага з вучэннем Касцёла і духам Евангелля выкарыстання дасягненняў навукі (асабліва ў галіне генэтыкі), існуе нямала спрэчных рэлігійных пытанняў. І на іх неабходна адказаць як мага хутчэй, бо можна спазніцца, і цягнік жыцця адыдзе без Касцёла.

***– Ці варта і мэтазгодна ў вырашэнні нейкіх спрэчных рэлігійных пытанняў карыстацца вопытам Касцёла ў іншых краінах свету?***

– Так, такі досвед патрэбны. Калі, напрыклад, у Італіі абмяркоўваўся новы закон аб легалізацыі абортаў, на вуліцах гарадоў з'явілася вялізная колькасць плакатаў з надпісамі: “Ты таксама быў эмбрыёнам”. Вельмі красамоўна… І нам неабходна падумаць аб чымсьці падобным. Калі немагчыма размясціць такія плакаты на вуліцы, то ў касцёлах – можна. У гаміліях і прамовах на тэму сям'і і аховы жыцця я часта прыгадваю людзям пра гэтую практыку італьянскага Касцёла і бачу, як яны жыва рэагуюць.

***– З якімі выклікамі сучаснасці зараз сутыкаецца як лакальны Касцёл, так і Паўсюдны? На што сёння варта звярнуць увагу вернікам усяго свету?***

– Найбольш небяспечнымі выклікамі сучаснасці як для Паўсюднага, так і беларускага Касцёла з'яўляецца ўжо ўзгаданы раней крызіс сям'і і праблема захавання Божага дару жыцця, якім усё часцей маніпулююць і які становіцца таварам.

Вялікую трывогу выклікае распаўсюджванне секулярызму і адмова ад этычных норм, жаданне абсалютнай свабоды без адказнасці, заняпад маральнасці, распаўсюджванне наркотыкаў, карупцыя, імкненне любым коштам дасягнуць багацця, улады і задавальненняў, негатыўны ўплыў амаральных медыя на выхаванне чалавека, асабліва моладзі… Гэта толькі некаторыя пункты цэлай “літаніі” духоўных анамалій сучаснага свету, якія перажывае глыбокі крызіс веры. Таму ўсім нам – у Беларусі і ў свеце – неабходна інтэнсіфікацыя евангелізацыі з мэтай новай сустрэчы з Хрыстом, які з'яўляецца Дарогай, Праўдай і Жыццём.

***– Ваша Эксцэленцыя, чаго біскупы Беларусі чакаюць ад сустрэчы са Святым Айцом Францішкам?***

– Папа – гэта наступнік св. апостала Пятра, заданнем якога з'яўляецца ўмацаванне ўсіх нас у веры. Мы чакаем яго айцоўскага настаўлення з мэтай удасканалення душпастырства і вырашэння існуючых праблем, з якімі змагаецца Касцёл у Беларусі.

Мы таксама будзем запрашаць Святога Айца наведаць нашу краіну з апостальскім візітам. Католікі ўжо не могуць дачакацца, калі іх духоўны настаўнік наведае Беларусь. Для гэтага сёння існуюць усе перадумовы. Пантыфік запрошаны Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Падтрымліваюцца добрыя братэрскія адносіны з Праваслаўнай Царквой ды іншымі хрысціянскімі і нехрысціянскімі веравызнаннямі. Усё наша грамадства, у цэлым, вельмі пазітыўна ставіцца да ідэі візіту Папы ў Беларусь.

*Ангеліна Пакачайла,*
*выкарыстана фота catholic.by*

---

***Візіт ad limina Apostolorum біскупаў Беларусі ў Ватыкан трывае з 31 студзеня па 7 лютага 2018 года. У ім прымаюць удзел Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, дапаможныя біскупы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі SDB, біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоній Дзям'янка, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец, біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч і Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.***

***Праграма візіту ўключае наведванне Дзяржаўнага сакратарыята Апостальскай Сталіцы, Кангрэгацый веравучэння, каталіцкай адукацыі, Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў, Кангрэгацый па справах біскупаў, духавенства, інстытутаў кансэкраванага жыцця і таварыстваў апостальскага жыцця, усходніх Касцёлаў, Дыкастэры па справах свецкіх, сям'і і жыцця, Папскіх Рад спрыяння хрысціянскаму адзінству і інтэрпрэтацыі заканадаўчых тэкстаў.***

***У рамках візіту біскупы Беларусі таксама цэлебруюць св. Імшы ў ватыканскіх базіліках св. Пятра, св. Паўла, Маці Божай Вялікай і Латэранскай базіліцы св. Яна.***

---

# Музыкай маліцца

## МОЛАДЗЬ У КАСЦЁЛЕ



**Напэўна, усе вернікі гродзенскага касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) ведаюць у твар арганістку Ірэну Барсукевіч. Дзякуючы яе паслузе нядзельныя і святочныя набажэнствы ў парафіі праходзяць пад чароўныя гукі аргана і суправаджаюцца меладычным спевам. У сённяшнім нумары "Слова Жыцця" арганістка распавядае пра сваю працу, захапленне натхняльнай і ўзнёслай музыкай, якая дапамагае людзям уздымацца над будзённасцю і шчыра маліцца.**



*Кожную нядзелю рукі Ірэны дакранаюцца да клавіш, нараджаюць мелодыі малітвы і надзеі*

### ПРЫСТУПКА ЗА ПРЫСТУПКАЙ

Музыка ўвайшла ў жыццё Ірэны Барсукевіч яшчэ ў дзяцінстве. Ужо ў 3-ім класе дзяўчынка пачала вучыцца ў музычнай школе па класе акардэона.

***"Гісторыя майго паступлення ў музычную школу – сапраўдны дэтэктыў,*** – гаворыць Ірэна. – ***У мяне была старэйшая сяброўка-суседка, якая хадзіла ў «музыкалку». Аднойчы я ёй прызналася, што таксама вельмі хачу навучыцца іграць на якім-небудзь музычным інструменце, і што калі яна мне дапаможа, буду ўдзячна ёй усё жыццё. Нашу размову пачуў тата. Відаць, яму самому захацелася стаць тым чалавекам, якому будуць удзячны ўсё жыццё, таму і павёў мяне ў музычную школу*** (смяецца – **заўв. аўт.**). ***Тата шмат свайго вольнага часу прысвяціў мне: адвозіў на заняткі, сачыў за поспехамі. Таму мая музычная адукацыя – у многім яго заслуга".***

Ірэна распавядае, што ўжо пасля першых заняткаў у яе з'явілася ўпэўненасць, што стане музыкантам. Праўда, інтарэсы з цягам часу змяніліся.

***"Спачатку я збіралася паступаць у музычны каледж, але пасля вырашыла пайсці ў швейную вытворчасць. На той момант мне здавалася, што гэта вельмі цікавая, творчая і перспектыўная прафесія. Але, на вялікі жаль, я памылілася,*** – гаворыць дзяўчына. – ***Ведаеце, зараз шмат маладых людзей сутыкаюцца з падобнай праблемай: выбіраеш прафесію, хочаш дасягнуць нейкіх вышынь, а пасля на практыцы атрымліваецца, што гэта зусім не тое, аб чым ты марыў. Я прайшла шлях ад звычайнай швачкі да тэхнолага. Пасля атрымала вышэйшую адукацыю настаўніка абслугоўваючай працы. Але адзінае і любімае месца працы па спецыяльнасці так і не змагла знайсці".***

Ірэна ўжо і не думала, што ў далейшым яе ізноў чакае сустрэча з музыкай. Аднак аднойчы ёй на вочы трапілася аб'ява, што Катэхетычныя курсы пры Гродзенскай курыі адкрываюць "школу арганістаў" і запрашаюць ахвотных на вучобу.

***"Канешне, пасля народнага інструмента іграць на аргане было дастаткова складана, але ў параўнанні з тымі хлопцамі і дзяўчатамі, якія ўвогуле не мелі ніякай музычнай падрыхтоўкі, я была ў больш выйгрышным становішчы. Прыступка за прыступкай пачала здабываць уменні. Вучылася манеры выканання імшальных мелодый і спеваў",*** – распавядае арганістка.

Яшчэ ў працэсе вучобы Ірэна пачала шукаць месца працы. Першыя навыкі адточвала суправаджаючы маёвыя і чэрвеньскія набажэнствы у пабрыгіцкім касцёле. Пасля цягам 8-мі месяцаў працавала ў касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы). А калі ў "брыгітках" вызвалілася месца арганіста, перайшла ў рэктаральную святыню, дзе іграе па сённяшні дзень.

### НЕ ДЛЯ СЯБЕ – ДЛЯ БОГА І ЛЮДЗЕЙ

Ірэна Барсукевіч падкрэслівае, што ў кожнай прафесіі існуюць свае цяжкасці. Таксама і ў музыцы, у асвойванні інструмента.



*Пілігрымка – выдатная магчымасць падзяліцца сваім талентам з іншымі*



*Падчас сустрэчы сужэнскіх пар, якія належаць да "OPEN"*

Але ўсе складаныя моманты кампенсуюцца задавальненнем ад выніку добра выкананай работы.

***"Праца арганіста патрабуе шмат намаганняў і, перш за ўсё, эмацыйнага ўдзелу. Безумоўна, стамляешся, калі цягам дня суправаджаеш некалькі св. Імшаў. Але гэта мая стыхія, я гэтым жыву,*** – адзначае дзяўчына. – ***Зараз усе песні і мелодыі ўжо ў галаве, таму не трачу шмат часу на падрыхтоўку. Прыходжу прыкладна за 15 хвілін да Імшы, каб памаліцца і падрыхтаваць неабходны матэрыял. Раней жа даводзілася дома пісаць планы песень і папярэдне рэпеціраваць кожнае набажэнства. Без такой сур'ёзнай падрыхтоўкі я б не адважылася адыграць на касцёльным музычным інструменце ўсю св. Імшу".***

Ірэна ўпэўнена, што музыка – яшчэ адно пацвярджэнне існавання Бога. Яна дапамагае адчуць прыгажосць, глыбіню і велічнасць малітвы. ***"Словы малітвы самі па сабе, канешне, цудоўныя, але калі яны спалучаюцца з музыкай, то кранаюць струны душы, спрыяюць раскрыццю нават самых патаемных яе закуточкаў. Калі па святыні разліваюцца мілагучныя спевы, твары людзей разгладжваюцца, святлеюць, прамянеюць пяшчотай і шчасцем. Нездарма існуе меркаванне, што музыка, якая нараджаецца з-пад рукі арганіста, можа тварыць з чалавекам цуды. Ёсць таксама нямала сведчанняў аб тым, што людзей моцна кранула нейкая мелодыя, што яны задумаліся над сваім жыццём, пачалі аналізаваць: ці заўсёды яны былі шчырымі, ці дзяліліся сваёй любоўю з іншымі",*** – падкрэслівае арганістка.

Ірэна таксама адзначае, што ноты становяцца музыкай толькі прайшоўшы праз пачуцці выканаўцы. Таму найгоршае, што можа быць, гэта калі арганіст абыякава і манатонна спявае, быццам зараз засне над клавішамі.

***"Для мяне найважнейшае – разумець тое, пра што спяваю. Таму я вельмі эмацыянальна перажываю змест кожнай малітвы, кожнай песні. Стараюся, каб маё музычнае суправаджэнне дапамагала людзям маліцца, каб разам са мной спявалі іх сэрцы. Мне падаецца, што ў нашай працы трэба кіравацца выказваннем: «У аргана непаўторнае, мяккае гучанне; але каб яно не стала бяздушным і механічным, трэба падыходзіць да працы з душой»",*** – падсумоўвае дзяўчына.

### ВЕРА – НАДЗЕЙНАЯ АПОРА

Ірэна вельмі пазітыўны, светлы чалавек, шчырая каталічка, а таксама любячая жонка і пяшчотная маці 2-іх дзетак. Яна вельмі ўдзячная сваім бацькам за выхаванне і веру, якую яны перадавалі з самага дзяцінства.

***"Вера дапамагае мне рабіць правільныя жыццёвыя выбары, не дапускаць памылак. Для мяне важна, каб маё сумленне было чыстым. А без фундамента веры нельга дабіцца ўнутранай чысціні. Цешуся, што мае ідэалы падтрымлівае сужонак, а таксама сябры сям'і,*** – гаворыць арганістка. – ***Сярод нашых знаёмых вельмі шмат тых, хто належаў да самых першых членаў моладзевага душпастырства «OPEN». Зараз мы маем свае сем'і, але працягваем сустракацца ў «брыгітках». Гэта так міла, калі пасярод святыні расцілаецца вялікі дыван і па ім поўзаюць нашыя дзеткі. Малышам тут вельмі падабаецца. Яны сябе ўтульна адчуваюць, і гэты факт не можа не радаваць. Мы выхоўваем сваіх дзяцей у хрысціянскім духу і спадзяёмся, што яны некалі прадоўжаць тую справу, якую мы пачалі. З іх вырастуць добрыя міністранты, харысты, удзельнікі «OPEN» і, магчыма, арганісты і арганісткі".***

*Кінга Красіцкая*




**_Італьянцы больш за ўсё давяраюць Папе Рымскаму_**

***77% апытаных маюць "вялікі" або "вельмі вялікі давер" да Святога Айца Францішка. Пасля яго ў "рэйтынгу даверу" ідуць службы парадку і школы. Касцёлу як інстытуту давярае 42% апытаных (5-е месца).***

*Даследаванне на тэму "Італьянцы і дзяржава" было праведзена ў 20-ты раз. Па запыце мясцовага штодзённіка "Рэпубліка" Інстытут "Дэмас" апытаў 1211 італьянцаў з намерам высветліць, наколькі яны давяраюць аб'яднанням, інстытутам і арганізацыям.*

*У 2016 годзе папа Францішак таксама займаў 1-е месца ў апытанні. Тады аб даверы да Пантыфіка заявілі 82% рэспандэнтаў.*




**_Дамы для бедных пабудуюць з элементаў папскага алтара_**

***Для гэтай мэты будуць выкарыстаны дэталі канструкцыі вялікага палявога алтара, на якім папа Францішак цэлебраваў св. Імшу ў парку О'Хігінса ў Санцьяга-дэ-Чылі.***

*Ён будзе разабраны ў бліжэйшыя дні. Плануецца задзейнічаць у справу каля 1300 драўляных пліт.*

*Цэлебрацыя Эўхарыстыі стала першым важным пунктам апостальскай пілігрымкі Пантыфіка ў Чылі. У ёй прынялі ўдзел больш за 400 тыс. чалавек.*




**_Апостальская Сталіца дэбютуе на Міжнароднай біенале архітэктуры_**

***Ватыканскі павільён будзе спраектаваны па прыкладзе капліцы з 1920 года, што знаходзіцца на т. зв. "Лясных могілках" у Стокгольме. Свае праекты запрошаны прадставіць 10 вопытных архітэктараў, якія паходзяць, між іншым, з Італіі, Іспаніі, Бразіліі, Японіі і Парагвая.***

*Паводле задумы, капліца, якая часта атаясамліваецца толькі з касцёльнай прасторай, павінна быць размешчана ў натуральным адасобленым асяроддзі: у лесе, які з'яўляецца метафарай вандроўкі праз жыццё. Апостальская сталіца хоча такім чынам падкрэсліць важнасць дыялогу паміж архітэктурай і духоўнасцю, а таксама, спасылаючыся на прыроду, звярнуць увагу на пасланне, заключанае ў энцыкліцы папы Францішка "Laudato si´".*



*Што гаворыць Касцёл адносна грашовых ахвяраванняў?*

*Паколькі супольнасць Касцёла ўстаноўлена не чалавекам, а самім Богам, слушна можна сцвердзіць, што Касцёл як Містычнае Цела Хрыста "не з гэтага свету". Аднак па волі Збаўцы ён існуе на зямлі і карыстаецца часовымі дабротамі настолькі, наколькі гэта ўласціва яго місіі (параўн.: Gaudium et spes, 76).*

*II Ватыканскі Сабор у дагматычнай Канстытуцыі пра Касцёл прыпамінае назвы, якімі Святое Пісанне азначае рэчаіснасць Касцёла: Божая будоўля, дом Бога, скінія Бога з людзьмі, святы Горад, новы Ерузалем (параўн.: Lumen gentium, 6). Св. Пётр называе членаў Містычнага Цела Хрыста жывымі камянямі (параўн.: 1 П 2, 5), што ў сваю чаргу паказвае асаблівае месца і ролю вернікаў у касцёльнай супольнасці. Зразумела, што дзеля дасягнення вызначанай Богам мэты Касцёл патрабуе таксама і матэрыяльных сродкаў.*

*Кодэкс кананічнага права нагадвае, што вернікі маюць абавязак дапамагаць у патрэбах Касцёла, каб ён меў неабходныя сродкі для Божага культу, апостальства і спраў дабрачыннасці, а таксама для годнага ўтрымання распарадчыкаў (параўн.: кан. 222 § 1). Пра гэты абавязак прыгадвае таксама 5-ты касцёльны наказ, які заклікае вернікаў клапаціцца аб матэрыяльных патрэбах Касцёла ў адпаведнасці са сваімі магчымасцямі (параўн.: ККК, 2043). Ён выплывае з натуральнага права, якое паказвае чалавеку на неабходнасць дбаць аб супольнасці, да якой ён належыць. Неабходна таксама адзначыць, што абавязак дбаць аб патрэбах Касцёла не абмяжоўваецца толькі да эканамічных сродкаў, але мае духоўны характар і праяўляецца таксама праз малітву ды асабістыя намаганні вернікаў у пашырэнні Божага Валадарства на зямлі, што з'яўляецца найважнейшым.*

*Грашовыя ахвяраванні служаць не толькі канкрэтнай парафіі ці супольнасці, але ўсяму Містычнаму Целу Хрыста, і такім чынам прычыняюцца таксама да павелічэння дабра тых, хто іх прыносіць у ахвяру. Вартасць ахвяры нельга вымяраць матэматычным чынам, бо яна залежыць ад унутранай паставы таго, хто яе прыносіць. Касцёл не вызначае вернікам ніякіх межаў адносна ахвяраванняў, але гаворыць, што трэба дбаць аб яго патрэбах паводле сваіх магчымасцей. Касцёл выказвае ўдзячнасць за кожны складзены дар для агульнага дабра чалавечай супольнасці.*

*Адсюль ахвярнасць – гэта справа не прававых норм, а любові. Прынесеная ад сэрца, яна павялічвае любоў ахвярадаўцы, надзяляе спакоем і радасцю. Усім, хто задумваецца над пастаўленым пытаннем, хай дапаможа св. Павел, які павучае: "Няхай кожны дае, як вырашыць у сэрцы сваім, а не са шкадаваннем ці з прымусу, бо радаснага даўцу любіць Бог" (2 Кар 9, 7).*

*Аркадзь Куляха ОСД*
**Паводле catholicnews.by**

# Чаго не хапае сучаснаму хрысціяніну

На першы погляд усё ў парадку. Вернікі з набожна складзенымі рукамі і скіраванымі да алтара позіркамі засяроджана ўдзельнічаюць у св. Імшы. Аднак штосьці ўва мне скрыгоча, штосьці не так.

Гэта была IV Звычайная нядзеля. Св. Імша ў 13.00 – досыць зручная гадзіна, таму даволі шмат людзей у касцёле. Казанне прамаўляў добры і мудры ксёндз. Усё ішло, як і заўсёды: спеў, малітвы, ахвяраванне дароў, перадача знака супакою… Толькі тады стала ясна, што так моцна ва ўсім гэтым выклікала ўва мне неспакой.

Некаторыя людзі неахвотна выцягнулі руку, некаторыя нават не адвярнуліся, і ніводзін не ўсміхнуўся. Ніводзін… Ці сапраўдны хрысціянін павінен выглядаць так? Пануры, грозны, засяроджаны выраз твару без ценю радасці і зычлівасці? Ці гэтаму нас вучыў Хрыстос? Ці аб гэтым гаворыць запаведзь любові?

Я пачала прыглядацца да асоб навокал і заўважыла, што большасць не прамаўляе малітвы ўголас і не ўдзельнічае ў спеве. Акрамя таго, многія ўвесь час пазіраюць на гадзіннік і хочуць як мага хутчэй выйсці. Так, нібы вымушаны прысутнічаць, каб залічыць сабе ўдзел у нядзельнай літургіі. Я задала сабе пытанне: ці сапраўды так усё павінна адбывацца? Безумоўна не. Хрыстос мае на ўвазе штосьці зусім іншае: Ён хоча быць нашым Сябрам. А да сяброў прыходзяць не пад прымусам, а з-за таго, што сумуюць, хочуць быць разам, любяць.

Любяць! Менавіта гэтага нам не хапае. Лю-бо-ві. Такой шчырай, даверлівай, бескарыслівай любові, якая надае жыццю сэнс, узмацняе, калі хочам апусціць рукі. Любові, якая з'яўляецца фундаментам хрысціянства, фундаментам НАШАЙ веры.

На жаль, мы вельмі часта пра гэта забываемся. Засяроджваемся на "кляпанні" малітваў, на самім прыходзе ў касцёл, на знешнім выглядзе (сваім і іншых), на рашэнні колькі даць на ахвяру. І ніяк не можам усвядоміць, што Пан Езус чакае нас – тых, хто прыходзіць да Яго з любові! А бачыць засяроджанасць замест радасці, сур'ёзнасць замест усмешкі, злосць замест дабрыні. Ці было б нам прыемна, калі б запрасілі гасцей, а яны паводзілі сябе такім чынам? Напэўна, не. Тады чаму паводзім сябе так адносна нашага любячага Пана, які аддаў жыццё за сваіх сяброў?

Аднак каб палюбіць Бога, спачатку трэба навучыцца любіць бліжняга і саміх сябе. Варта ўсвядоміць, што ніхто з людзей не ідэальны, і… змірыцца з гэтым. У першую чаргу, прыняць сябе, каб здолець прыняць іншага чалавека. Гаворка не пра тое, каб пагадзіцца са сваімі слабасцямі і перастаць змагацца з імі, а пра спакойнае прыняцце, што яны ёсць і трэба над імі працаваць. Усведамленне ўласных недахопаў дазволіць больш паблажліва глядзець на недасканаласці іншых. Любоў, у сваю чаргу, дазволіць прыняць гэтыя слабасці і заўважыць мноства цудоўных рыс у іншай асобе. І ў гэтым сутнасць!

Кожны з нас, нягледзячы на шматлікія недахопы, з'яўляецца ўмілаваным Божым дзіцём, мае вялікую колькасць талентаў і дабраты, якімі адарыў Стварыцель. Трэба засяроджвацца на іх, а не на чужых грахах. А калі палюбім бліжніх, нам стане лягчэй адкрыцца на любоў Пана. Усмешка не будзе праблемай, а поціск рукі не выкліча агіды. Св. Імша стане цудоўнай нагодай, каб бліжэй сустрэцца з Узлюбленым, а не нудным штотыднёвым абавязкам. Людзі побач зробяцца для нас ужо сябрамі, а не ворагамі. Будзем прыходзіць у касцёл і пакідаць святыню з радасцю і супакоем у сэрцы. Нам для гэтага патрэбна так мала і адначасова так многа – бо толькі і ажно – любоў.

*Вікторыя Сідар*

# Не рабіце жорсткімі вашыя сэрцы



Мяне здаўна турбуе тэма культуры паводзін людзей у касцёле, а менавіта павага да пажылых людзей. Мы спяшаемся ў святыню, каб абавязкова заняць месца, таму што гадзіна малітвы стоячы здаецца чымсьці неймаверным. А ці памятаем пра пажылых асоб – людзей ва ўзросце нашых бацькоў, дзядуль і бабуль, прадзедаў і прабабуль? Не так даўно я назірала наступную сітуацыю.

Трывае падрыхтоўка да св. Імшы. Касцёл запоўнены людзьмі. Ёсць шмат месцаў для сядзення, але ўсе яны, безумоўна, занятыя. Пасля споведзі вяртаюцца 2 старэйшыя жанчыны. Сціпла спыняюцца ў праходзе і чакаюць пачатку літургіі. Побач сядзяць мужчыны. Стомленыя. Не могуць устаць, каб саступіць месца. А можа, саромеюцца? Бо гэта ж цяпер нямодна: устаць, падысці да жанчыны і прапанаваць ёй прысесці. Сядзяць цэлымі сем'ямі: дзеці школьнага ўзросту і бацькі. Сядзяць і, бяспрэчна, падаўляюць у сабе ўласнае сумленне. Бо дзесьці ў падсвядомасці разумеюць, што ўстаць, усё ж такі, трэба, што так непрыстойна паводзіць сябе мужчыне і маладзі, тым больш у касцёле, у святым месцы. І якім жа было маё здзіўленне – нават не здзіўленне, а, з аднаго боку, абурэнне, з другога ж, захапленне – калі з лаўкі ўстаў мужчына ва ўзросце 80-ці гадоў і саступіў гэтым жанчынам месца. І ён змог маліцца стоячы да канца св. Імшы. Перад такімі людзьмі я схіляю галаву. А побач з ім сядзеў малады бацька з сынам і жонкай… Шчыра кажучы, боль сціскаў сэрца.

Гэтая сітуацыя шмат над чым прымушае задумацца. Гонар і прызнанне належаць тым асобам, у якіх не памерла выхаванасць, пашана, у дадзенай сітуацыі – да жанчын. Сумленне такіх людзей не дазваляе ім сядзець, калі побач стаяць жанчыны. А тыя, хто робіць выгляд, што не разумее ўсёй сітуацыі, які прыклад падаюць сваім дзецям? Чаму іх вучаць? Якую культурную спадчыну ім пакідаюць? Шкада, што гінуць старыя прыгожыя традыцыі і звычаі. Шкада, што асновы нашай культуры знікаюць.

У асобе кожнага старэйшага чалавека ёсць нашы бацькі, дзядулі і бабулі, нашы блізкія. Ствараецца ўражанне, што мы не шануем іх, што мы абыякавыя, чэрствыя і эгаістычныя. Калі дазваляем так сябе паводзіць у касцёле, чаго можна чакаць у транспарце, магазіне, на вуліцы? Хацелася б, каб бацькі, настаўнікі, катэхеты закранаці гэтую праблему дома, у школе, на занятках рэлігіі.

У адной з кніг Біблії – Кнізе Левіт – гаворыцца: "Перад сівой галавой устань і шануй старога ды шануй Бога твайго. Я – Пан!" (Лев 19, 32).

*Караліна Ігнатовіч*



# Ці ж не хочаце вы змясціць гадзіннік на Галгофе?

Парой здаецца, што час у касцёле цягнецца вечнасць. Асабліва калі стомлены ці вельмі спяшаешся далей па сваіх справах. Не можаш засяродзіць увагу на чытанні, саромеешся спяваць псалом, а ксёндз на казанні, здаецца, быццам варкоча калыханку. І вось надыходзіць той самы важны момант, калі святар падносіць над алтаром Цела і Кроў Хрыста, прыпамінаючы кожнаму, якой цаною было адкуплена чалавецтва. У гэты момант мы знаходзімся як ніколі блізка Пана… І тут, у сакральнай цішыні, калі нават сэрцы замiраюць, раптам так гучна данесціца званок мабільнага тэлефона! Якое ж пасля гэтага можа быць адчуванне еднасці?

Мы сталі нявольнікамі часу, і гэта факт. Спяшаемся туды, дзе, можа, і не хочам прысутнічаць, каб атрымаць пахвалу ад тых, для каго, насамрэч, не такія важныя. І так з дня ў дзень.Ператвараемся ў нейкія запраграмаваныя механізмы, якія не хочуць выдзяляцца. Такім чынам губляецца не толькі цікавасць да штодзённых спраў, але і адказнасць за змарнаваны час.

У выхадны дзень так хочацца паваляцца ў цёплым ложку, паглядзець фільм ці, урэшце рэшт, выбрацца з сям'ёй на прыроду. Але прыпамінаеш сабе, што абавязкова трэба схадзіць у касцёл. Гэтыя 1,5–2 гадзіны падаюцца нечым неймаверна цяжкім, бо мы прызвычаіліся да таго, што за свае ўчынкі атрымліваем узнагароду тут і цяпер. Але думаем, што столькі гадоў ходзім у касцёл, слухаем казанні, а ў сям'і такі ж разлад, на працы ўсё так жа цяжка, вучоба не даецца ўвогуле. Хочам большага, аднак часам не гатовы змяніцца дзеля гэтага, зрабіць хоць нешта, пакінуўшы ўтульную зону камфорту.

Калі прыходзім у касцёл, павінны разумець, што час тут ідзе зусім па-іншаму. Адчыняючы дзверы святыні, трэба не забыцца адкрыць свае сэрцы, бо, пераступаючы парог, мы, у рэчаіснасці, становімся маленькім кавалачкам вялікага пазла Нябеснага Валадарства.

Аднойчы да прастога святара наведаліся людзі ў строгіх касцюмах, гальштуках і пенснэ. Яны сталі "зліцца" з вернікамі, але ўсё ж вельмі выдзяляліся сваім знешнім выглядам сярод бедных парафіян. Як потым стала зразумела, тыя людзі прыбылі, бо нехта паскардзіўся, што св. Імша цягнецца занадта доўга. Падчас Паднясення – якое многія святыя параўноўвалі з адчуваннем Раю тут, на зямлі – слых святара кранаў гук адкрытага гадзінніка. Нават не гледзячы ў той бок, айцец, стрымліваючы слёзы, сказаў: "Ці ж не хочаце вы змясціць гадзіннік нават на Галгофе?". Гэтым святаром быў св. Айцец Піо з П'етрэльчыны.

Уяві, што кожны дзень нам даецца 24 найцаннейшых адзінак вымярэння, якія толькі бачыў свет. І толькі раз на тыдзень Нехта просіць у Цябе ўсяго адну такую, маленечкую на фоне іх незлічонай колькасці. Памятай, гэта Езус стукае ў дзверы душы і запрашае да сябе ў гэты час. Ён просіць пабыць з Ім трошачкі, з Ім адным, без тэлефонаў і гадзіннікаў. Адкінь усё, што дакучае ў паўсядзённым жыцці, і прымі гэтае запрашэнне…

*Марыя Валюк*

## НАВІНЫ



### Экуменічнае набажэнства ў гродзенскай катэдры

Экуменічнае набажэнства ў межах Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян адбылося ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. У супольнай малітве, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, прынялі ўдзел прадстаўнікі Рыма-каталіцкага Касцёла, Грэка-каталіцкай і Праваслаўнай Цэркваў, Евангелічна-лютэранскай супольнасці, Царквы поўнага Евангелля "Жывое Слова" (пяцідзясятнікі). Прадстаўнікі прысутных канфесій звярнуліся да сабраных з кароткай прамовай. Іх выступленні аб'ядноўвала галоўная думка: хрысціяне належаць да адзінай сям'і Божых дзяцей, якія імкнуцца да збаўлення. Пасля адбылася супольная малітва "Ойча наш". Затым прадстаўнікі хрысціянскіх супольнасцей запалілі ад пасхала свечкі, святло ад якіх перадалі ўсім удзельнікам набажэнства. Як святло Хрыста, яны сімвалізавалі полымя, промні якога асвятляюць свет.

Да свята Ахвяравання Пана ў шматлікіх парафіях і супольнасцях дыяцэзіі працягваліся аплаткавыя спатканні. На мінулых тыднях мелі месца апошнія калядныя прадстаўленні. У іх ліку дэканальны прагляд калядак і пастаралак у Сапоцкіне, выступленне хору "Чырвоныя макі" (Мінск) у парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі, традыцыйны канцэрт з серыі "Музычны полудзень", падрыхтаваны дзецьмі з гродзенскай парафіі Божай Міласэрнасці ў стацыянары хоспіса гарадской клінічнай бальніцы №3. Каб працягнуць атмасферу свят, з калядным канцэртамі ў Пінску і Гомелі выступілі хор настаўнікаў з Іўеўскай дзіцячай школы мастацтваў і народны ансамбль "Чабарок". Грамніцы завяршылі святочны перыяд Божага Нараджэння ў Касцёле. У гэты дзень вернікі на чале са святаром здзейснілі абрад "развітання з яслямі". Чарговыя калядкі цяпер прагучаць толькі ў наступным снежні.

### МАНАСКІЯ СУПОЛЬНАСЦІ



Рашэннем манаскіх улад с. Богна з Кангрэгацыі Сясцёр Кармэлітак ад Дзіцятка Езус, якая амаль 25 гадоў несла паслугу ў Гудагаі (дэканат Астравец), перавядзена ў супольнасць у Лапах (Польшча).

З нагоды Сусветнага дня кансэкраванага жыцця ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне памаліліся ў інтэнцыі падзякі за дар паклікання да манаства, а таксама аб усіх неабходных ласках для кансэкраваных асоб, у прыватнасці для тых, якія служаць у Гродзенскай дыяцэзіі.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Днём засяроджання скончыўся І семестр навучальнага года ў клерыкаў Гродзенскай ВДС. Яго правёў вікарый парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне а. Валерый Мазюк CSsR. Падчас канферэнцый навучэнцам як рэфрэн спадарожнічала пытанне "Кім для мяне з'яўляецца Хрыстос?". Умацаваныя ў пакліканні, семінарысты паехалі на некалькі дзён адпачынку дадому ў родныя парафіі.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



"Дон Боско шоў" адбылося ў салезіянскім араторыі пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні. У рамках мерапрыемства былі арганізаваны гульні і тэатральныя пастаноўкі, якія дапамаглі прысутным больш даведацца пра святога. Напрыканцы адбылося ўзнагароджанне пераможцаў І Кубка салезіянскага араторыя па мікра-футболе. Найважнейшай падзеяй стала далучэнне да салезіянскай сям'і новых супрацоўнікаў. Некалькімі днямі раней у араторыі прайшло свята імяніннікаў.

Францішканская моладзь з душпастырства "Tau" (парафія Маці Божай Анёльскай у Гродне) сустрэлася са студэнтамі з Нігерыі, каб пазнаёміцца з іх культурай, традыцыямі. Госці распавялі таксама аб сваім Касцёле і аб сітуацыі хрысціян у іх краіне.

У Дзень памяці ахвяр Халакосту прайшла сусветная акцыя "Мы памятаем". Каб узгадаць пакутнікаў Другой сусветнай вайны, пры ўваходзе ў былое гродзенскае гета разам з прадстаўнікамі яўрэйскай абшчыны сабраліся неабыякавыя гараджане і прадстаўнікі духавенства. Ад імя Касцёла на сустрэчы прысутнічаў кс. канонік Антоній Грэмза, віцэ-канцлер Гродзенскай курыі.

Чэмпіянат Еўропы па міні-футболе сярод каталіцкіх святароў адбудзецца 5–8 лютага ў Брэшыя (Італія). Беларусь на спаборніцтвах прадставіць каманда ксяндзоў Гродзенскай дыяцэзіі ў складзе 15-ці чалавек на чале з капітанам кс. канонікам Паўлам Салабудам, пробашчам парафіі Святога Духа ў Гродне.



### АДНЫМ РАДКОМ

• Падчас пленарнага пасяджэння старшынь сінадальных камісій у Гродне адбылося ўручэнне дэкрэтаў аб персанальным складзе кожнай сінадальнай камісіі разам з праектам матэрыялаў для апрацоўкі. • Каманда беларускага "Радыё Марыя" правяла ў гродзенскай парафіі Божай Міласэрнасці 2 пазнавальныя семінары: "Я – журналіст!" і "Хрысціянскі бізнес". • Навагодняя сустрэча членаў малітоўнага апостальскага руху "Маргарытка" з біскупамі Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандрам Кашкевічам і Юзафам Станеўскім адбылася ў будынку Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## АНОНСЫ

### "СУЖЭНСКІЯ СУСТРЭЧЫ" АДБУДУЦЦА Ў ЛЯСКОЎЦЫ

**Чарговыя рэкалекцыі для сямейных пар пройдуць 9–11 лютага ў цэнтры дабрачыннага таварыства "Карытас" каля Бараўлянаў (Мінскі р-н).**

"Сужэнскія сустрэчы" – гэта рэкалекцыйны рух, мэтай якога з'яўляецца паглыбленне партнёрскіх адносін, асэнсаванне мужам і жонкай таямніцы шлюбу, дапамога ім у лепшым разуменні адно аднаго. Сужэнствам таксама прапануецца форма дыялогу, на аснове якой пары навучацца знаходзіць выхад з канфліктных сітуацый у выпадку непаразуменняў.

Начлег і пасілак удзельнікам спаткання забяспечваюць арганізатары. Неабходныя ўмовы: прысутнасць на сустрэчах абодвух сужэнцаў (без дзяцей), удзел ва ўсёй праграме.

**Кантакты**
*(8 029) 779-19-03 – Вольга; (8 029) 250-06-99 – Аляксандр.*
*E-mail: sustre4y@tut.by.*
*Сайт: suvstrechi.by.*

### ІСНУЕ МАГЧЫМАСЦЬ НАБЫЦЬ ПЕРАВЫДАДЗЕНЫ НОВЫ ЗАПАВЕТ!

**Секцыя па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі з мэтай перавыдання 1-га поўнага афіцыйнага рыма-каталіцкага выдання Новага Запавету (Мінск, 2017) звяртаецца да святароў і кансэкраваных асоб з просьбай выказацца адносна таго, колькі асобнікаў мае намер набыць тая ці іншая парафія або манаская супольнасць.**

Колькасць асобнікаў павінна быць кратна 5-ці (напр., 5, 10, 15, 75, 100).

*Свае заяўкі просьба накіроўваць да 15 лютага на электронны адрас: liturgia@catholic.by.*

### "ДУШЭЎНЫ КІРМАШ" АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства з мэтай падтрымкі невылечна хворых пацыентаў анкалагічных аддзяленняў, пацыентаў хоспіса і бальніц сястрынскага догляду арганізуе сацыяльна-дабрачынная ўстанова "Цэнтр дапамогі жыццю". Падчас яго плануецца сабраць ахвяраванні для падапечных цэнтра.**

"Душэўны кірмаш" пройдзе 10 лютага з 12.00 да 14.00 у зале "Д" гандлёвага комплексу "Карона" (вул. Горкага, 91).

**У праграме мерапрыемства:**
- выступленне лепшых народных калектываў горада;
- гумарыстычная праграма;
- кірмаш аўтарскіх вырабаў ручной работы і шмат сюрпрызаў ад арганізатараў.

*З пытаннямі або ідэямі можна звяртацца на электронны адрас life-care-center@yandex.by.*

### АГУЛЬНАБЕЛАРУСКАЯ СУСТРЭЧА МОЛАДЗІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства будзе праходзіць з 29 красавіка па 1 мая ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (мікрараён Дзявятоўка).**

Тэма сустрэчы – "Не бойся, Марыя, бо знайшла ты ласку ў Пана" (Лк 1, 30).

*Спатканне пройдзе з нагоды аб'яўленага ў Беларусі душпастырскага Года моладзі.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**4 лютага 1977 г.** – кс. Казімір Раслеўскі, *проб. Ваўкавыск;*
**4 лютага 1992 г.** – кс. Казімір Баневіч, *ген. вік., проб. Ліда;*
**5 лютага 1910 г.** – кс. Тадэвуш Сідароніч, *проб. Белагруда;*
**9 лютага 2002 г.** – кс. Антоній Рафалка SDB, *проб. Ашмяны;*
**10 лютага 1948 г.** – кс. Раман Паноха, *вік. Радунь;*
**10 лютага 2003 г.** – кс. прэлат Люцыян Вайцяхоўскі, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**13 лютага 1959 г.** – кс. Павел Сенкевіч, *ген. вік., проб. Гудагай;*
**15 лютага 1972 г.** – кс. Міхал Шалкевіч, *проб. Тракелі.*

## Каляндар падзей

***5 лютага***
*Успамін св. Агаты.*
***11 лютага***
*Сусветны дзень хворых.*
***14 лютага***
*Пачатак Вялікага посту.*
*Папяльцовая серада.*
*Абавязвае сціслы пост.*
***18 лютага***
*I Нядзеля Вялікага посту.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 6 лютага.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Люты***

*Каб духавенства і вернікі дыяцэзіі старанна і адказна клапаціліся аб развіцці здаровай набожнасці і вернасці Папе ды навуцы Паўсюднага Касцёла.*




## Чаму быў устаноўлены Дзень хворых?



11 лютага, ва ўспамін Маці Божай з Лурд, мы адзначаем Сусветны дзень хворых, які ў 1992 годзе ўстанавіў св. папа Ян Павел II. Мэта гэтага дня – прыцягнуць увагу людзей да праблем і пакут, з якімі сутыкаюцца хворыя на ўсёй планеце, на неабходнасць аказання ім якаснай медыцынскай, а таксама матэрыяльнай і маральнай дапамогі. Грамадству ў чарговы раз прыпамінаецца, што варта выказваць церпячым спачуванне, салідарнасць, спагаду і міласэрнасць.

Не ўсім пашчасціла мець моцнае здароўе. Колькасць хворых людзей з кожным днём павялічваецца. Але кожны з нас, несумненна, можа дапамагчы церпячаму, праявіўшы клопат пра яго і падзяліўшыся з ім сваім душэўным цяплом. Увага, маральная падтрымка – самае, бадай, галоўнае, што неабходна хвораму чалавеку. У той жа час гэта выдатная магчымасць задумацца аб уважлівым стаўленні да ўласнага здароўя, напамін пра тое, што павінны быць неабыякавымі і адкрываць свае сэрцы на іншых. А прыкладам таму няхай стане гэтая цікавая гісторыя Зофіі Станецкай, якую зараз прапануем Тваёй увазе.



**Мама і Янак выехалі на некалькі дзён, а з Басяй і Франкам застаўся бацька.**

**– Што мы будзем рабіць? – спыталася Бася, калі зачыніліся дзверы за мамай і братам.**

**– Ідзём спаць? – прапанаваў бацька і пазяхнуў. Мінулай ноччу ён працаваў і не адаспаўся.**

**– О, тата, не жартуй! – усклікнула Бася.**

**– Не-не! – падтрымаў яе Франак.**

**– Мы можам пагуляць у лекара, – прапанавала Бася. – Франак будзе хворы, а мы...**

**– Не холы! – пратэставаў маленькі хлопчык, які яшчэ не вымаўляе ўсе літары. Ён падышоў да бацькі і пацягнуў яго за штаніну. – Фанак не холы, не?**

**– Ты здаровы ад галавы да пят, – супакоіў яго бацька. – Але я б вельмі хацеў прылегчы.**

**– У такім выпадку, ты будзеш хворым, а мы з Франкам будзем цябе лячыць, – узрадавалася Бася.**

**– Ну, я не ведаю... – адказаў няўпэўнена бацька.**

**– Тата холы? Фанак пытуліць, – сказаў хлопчык і прыціснуўся да ног бацькі.**

**– Так, бедны тата хворы. Нам неабходна паклапаціцца пра яго, – сказала Бася, узяла бацьку за руку і завяла яго ў спальню. – Ты павінен ляжаць. Пацыенты не павінны бегаць па шпіталі, таму што яны могуць заразіць іншых.**

**Тата быў настолькі стомлены, што нават не пратэставаў.**

**– Я прылягу толькі на кароткі час, – сказаў ён. Сеў на ложак, нахіліў галаву і, ледзь абапершыся на падушку, заснуў.**

**– Тата спі? – спытаўся Франак.**

**Бася ўзняла бацьку павека.**

**– Так, ён спіць, – пацвердзіла яна. – Мы павінны яго чым-небудзь укрыць.**

**Дзяўчынка пайшла ў свой пакой і прынесла адтуль коўдру, пакрывала і спальны мяшок.**

**– Хвораму павінна быць цёпла, – сказала яна, накрываючы "пацыента" ўсім, што было. Франак пацёр бацьку нос, які выглядаў з-пад спальніка.**

**– Тата холы. Фанак пытуліць, – зноў і зноў ён паўтараў свае словы.**

**Бася тым часам задавалася пытаннем: "Што ж яшчэ мы можам зрабіць для таты?".**

**– Лекаў яму не будзем даваць, таму што ён іх цяпер не праглыне, – прамармытала сабе пад нос дзяўчынка. – Я ведаю! Мы можам пасмараваць яго чымсьці!**

**Бася прынесла крэм для ног і зубную пасту, а таксама бутэльку алею, міску і лыжку. Наліла ў міску алею, дадала да яго крэм і пасту. І асцярожна ўсе перамяшала.**

**– Гэта спецыяльная мазь ад усіх хвароб, – растлумачыла сястра брату. – Безумоўна, гэта дапаможа нашаму тату.**

**– Тата холы. Фанак пытуліць, – прамармытаў Франак, намазваючы мазь бацьку на валасы, лоб, нос, шчокі і вусны.**

**– Ааа! – закрычаў бацька, калі алей з пастай трапілі яму ў вочы. Ён ускочыў з ложка, увесь у тлушчы ад мазі.**

**– Тата не холы! – радаваўся Франак.**

**– Я ж табе казала, што гэта дапаможа, – усміхалася Бася.**

**Момант тата стаяў пасярэдзіне пакоя, спрабуючы зразумець, што з ім здарылася. Потым ён сказаў наступнае:**

**– Па-першае, я думаю, што зараз мне дапаможа добры душ. А па-другое, потым мы будзем гуляць разам, таму што цяпер я доўга не засну.**

**– Ура! – крыкнула Бася.**

**– Уя! – паўтарыў за ёй Франак.**

Заўсёды варта клапаціцца аб хворых людзях, бо калі мы дапамагаем ім, дапамагаем самому Езусу. Хрыстос гаворыць: "Сапраўды кажу вам: тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі" (Мц 25, 40).

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Заданне:

**намалюй вялікае сэрца і ўпішы ў яго сваю малітву да Маці Божай з Лурд. Памаліся за хворых, якіх Ты ведаеш, і за ўсіх, хто знаходзіцца ў шпіталі.**

**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі. На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.**

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды 4-ай гадавіны біскупскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні мноства Божых ласкаў. Няхай Пан дапамагае ў пастырскай працы на карысць Касцёла, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй любоўю, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі.

*Апостальства "Маргарытка" Гродзенскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Айцу Анджэю Шчупалу**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння складаем букет найлепшых віншаванняў. Жадаем дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці. Шчыра дзякуем за добрае сэрца, якое заўсёды на нас адкрыта, за ўвагу і клопат. У малітве просім Усемагутнага, каб за ўсё Вам аддзячыў. 100 гадоў!

*Студэнты катэхетычных курсаў пры Аддзеле каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі*

**Паважанаму Айцу Анджэю Шчупалу**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін ад усяго сэрца перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, жыццё – доўгім, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай Вас заўсёды ахінаюць промні Божай міласэрнасці, Святы Дух адорвае сваімі ласкамі, а Маці Божая няспынна апекуецца. Пан Езус няхай валадарыць у Вашым сэрцы, а святы Заступнік заўсёды стаіць побач. Дзякуем за сталы клопат аб парафіянах і святыні.

*Удзячныя парафіяне*

**Паважанаму Айцу Анджэю Шчупалу**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем добрага здароўя, нястомных сіл у абвяшчэнні Евангелля Пана, нязгаснага запалу веры і любові ў сэрцы, моцы і цярплівасці на святарскім шляху, а таксама штодзённай радасці і душэўнага супакою.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Новай Руды*

**Паважанаму Айцу Анджэю Шчупалу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, добразычлівасці ад людзей навокал, а таксама Божага благаслаўлення і апекі святога Заступніка на кожны дзень. Шчасці Божа!

*Сям'я Заяц*

**Паважанаму сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай. Няхай на Цябе шчодра зыходзяць Божыя ласкі, стала адчуваецца апека Божай Маці і святога Заступніка, дары Святога Духа ўмацоўваюць, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі. Жадаем моцнага здароўя, сіл і стойкасці на выбраным шляху, а таксама штодзённай радасці і надзеі.

*Бацькі*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды 35-годдзя, а таксама 10-й гадавіны святарства перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог праз нашыя малітвы ўзнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю, нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом і цяплом свайго Сэрца, ахіне ласкай і дабрынёй, а Святы Дух асвеціць дарогу, па якой мы разам з Вамі ідзём. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву, цярплівасць да нас. Жадаем шчасця і як мага больш радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на працягу ўсяго жыцця.

*З удзячнасцю, парафіяне з в. Бакшты*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог, якому Вы давeрыліся, благаслаўляе кожны дзень жыцця, Марыя – Маці святароў – ахінае Вас сваёй апекай заўсёды і ўсюды, а Святы Дух стала адорвае сваімі ласкамі. Дзякуем за Вашу паслугу і за ўсмешку.

*З малітвай, Францішканскі ордэн свецкіх, Вялікія Эйсманты*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем усіх патрэбных Божых ласкаў, дароў Святога Духа. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам яшчэ на працягу многіх гадоў жыцця, прыносячы задавальненне і радасць ад таго, што ўдалося дасягнуць.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Забалаці*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Станіславу Пацыну**

з нагоды 35-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сілы і трываласці на кожны дзень, аптымізму, нязгаснага запалу ў веры, супакою ў сэрцы. Няхай Езус міласэрны адорвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая абараняе ад зла. Дзякуем за добрае слова, за тое, што вучылі любові да Бога і бліжняга, а таксама за касцёл, які для нас пабудавалі.

*Парафіяне з касцёла Божай Міласэрнасці, Ліда-Маладзёжны*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усяго самага найлепшага: здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, сіл і цярплівасці на выбраным шляху. Няхай Пан Бог благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая ахінае сваёй мацярынскай апекай.

*Ружанцовае кола св. Юзафа з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Хрыстос, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць святарскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю.

*Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі, Воўпа*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Калесніку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, нястомных сіл у абвяшчэнні Евангелля Божаму люду, шчодрага плёну ў душпастырскай працы, нязломнай веры, душэўнага супакою і шчырай радасці ў сэрцы.

*Вернікі з в. Андрэеўцы*

**Паважанай Сястры Агаце Смольскай**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем здароўя, стойкасці ў працы, апекі Маці Божай і святой Агаты, усіх патрэбных ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай Бог адорвае Вас сваёй любоўю і благаслаўленнем. Памятаем і молімся за Вас.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, шмат сіл і цярплівасці. Няхай Хрыстос адорвае Вас сваімі ласкамі, Дух Святы асвячае жыццёвы шлях, а Марыя Панна ахінае апекай і вядзе па найлепшай сцежцы да Пана. Няхай кожны дзень прыносіць Вам радасць!

*Парафіяне з в. Лойкі*

**Паважаны Ксёндз Валерый Быкоўскі!**

З нагоды Імянін прагнем скласці сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус заўсёды будзе Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца.

*Апостальства "Маргарытка" Гродзенскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Імянін дасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай Бог благаслаўляе кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі. Жадаем таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою. Няхай кожны дзень жыцця будзе асветлены промнямі Божай міласэрнасці.

*З павагай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com.; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 716 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная